# 30 год «Электрамодуля»: ад Кобліцкага да Драгуна

*МАЛАДЗЕЧНА. У гэтым месяцы спаўняецца 30 год з дня ўтварэння аднаго з буйнейшых заводаў горада — "Электрамодуля".*

Пра яго гісторыю распавядае чалавек, які там працаваў ад самага пачатку, ганаровы ветэран завода, былы начальнік цэхаў №2, №4, цяпер пенсіянер, **Аляксандр Драздоўскі**:

– У 60-х у СССР шырокае прымяненне мелі генератары, што перапрацоўваюць пераменны ток у пастаянны. Яны выкарыстоўваліся ў матацыклах, трактарах, аўтамабілях. Таму ўзнікла патрэба ў будаўніцтве завода, які забяспечваў бы ўсесаюзныя патрэбы ў іх і іншых электратэхнічных "дробязях". Месцам размяшчэння выбралі Беларусь – як рэспубліку з найтаннейшай рабочай сілай. Завод пачалі будаваць у 1965 годзе, а днём яго ўтварэння лічыцца 15 мая 1970 года (дата загаду па ўсесаюзным вытворчым аб'яднанні).

Першым дырэктарам стаў **Міхаіл Кобліцкі**. Пры ім гэты завод будаваўся і, дзякуючы яму, адбыўся. Прычым, напачатку існавання ЗСПВ (завод сілавых паўправадніковых вентыляў) давялося працаваць ва ўмовах адчувальнай канкурэнцыі (падобнае прадпрыемства было ў Куйбышаве).

Расіянаў перамаглі, дзякуючы новай тэхналогіі вытворчасці (напрыклад, замест традыцыйнага ліцця корпуса генератара наш спецыяліст **Мікалай Сарока** прыдумаў выраблядь яго з металічных пласцін).

Тады людзі ставіліся да сваіх абавязкаў інакш – працавалі па 12 гадзін і болей, калі ў гэтым была патрэба. Ды і дабудоўваўся завод паціху (трэба было ацяпленне ў цэхі праводзіць, новыя карпусы будаваць). Наша асноўнае багацце складалі маладыя спецыялісты (сярод іх былі, дарэчы, цяперашнія тэхнічны дырэктар завода і яго кіраўнік – **Міхаіл Апанасевіч** і **Іван Драгун**).

Праз некаторы час планы па выпуску прадукцыі рэзка павялічыліся, тады закупілі новыя тэхналогію (сусветнага ўзроўню, выкарыстоўваецца і цяпер) і абсталяванне ў Італіі.

Уявіце сабе наступнае: у механічным цэху №2 за змену трэба было зрабіць 300 тысяч дэталяў, толькі для чысткі абсталявання патрэбна ў месяц 500 літраў спірту. Завозілі для вытворчых патрэб серабро, золата, цыяністы калій. Парушэнняў дысцыпліны амаль не было, за крадзяжы адразу звальнялі, некаторых нават пазбаўлялі волі.

Пры першым дырэктары завод меў 2 вядучыя цэхі (№1 – зборкі, №2 – механічны). Акрамя іх, былі інструментальны і цэх нестандартызаванага абсталявання.

У 1978 годзе першага дырэктара адправілі на Украіну, у Запарожжа, падымаць тамтэйшы завод. Там, праз год пасля выхаду на пенсію, ён і памер.

У Маладзечна ж на яго месца прызначылі **Юрыя Захарава**, былога галоўнага тэхнолага. Пры ім будавалася другая чарга завода, утварыўся цэх №4.

Самым знакамітым таварам народнага карыстання, на той час, быў бар "Чараўнік". Каштаваў той звышсучасны выраб дорага: першая партыя – 600 рублёў, наступныя – тысячу. Адзін з бараў набыла нават **Ала Пугачова**, калі была на гастролях у Мінску. "Чараўнік" карыстаўся поспехам у яе сям'і і сяброў, паведамляла яна потым у лісце. Шкада толькі, што з-за парушэння інструкцыі па выкарыстанні, бар зламаўся. Як выключэнне, наш дырэктар даў указанне замяніць яго на новы.

Юрыя Захарава адправілі ў Маскву на павышэнне. Адзін час ён працаваў намеснікам міністра, цяпер пайшоў на пенсію. У расійскай сталіцы і жыве.

На яго месца ў 1982 годзе прызначылі **Валянціна Чурзіна**, які да таго працаваў на "Спадарожніку". Тады завод квітнеў. У нас было ўсё: попыт, рынкі збыту, грошы, экспарт. Колькасць рабочых дасягала 5 тысяч чалавек. У 1986 ён стаў "Электрамодулем".

У 1989 годзе Валянцін Чурзін памер, і ўпершыню праводзіліся выбары (першыя тры дырэктары прызначаліся загадам саюзнага міністэрства). Перамогу атрымаў **Віктар Васько**.

У той час завод стаў працаваць з перабоямі, з'явіліся праблемы з пастаўшчыкамі сыравіны. Значная частка спецыялістаў пайшла з вытворчасці. Праз 3 гады, загадам міністэрства, яго змяніў **Яўген Скараходаў**, спецыяліст, які раней працаваў на "Электрамодулі" і ЗПМ. Было відавочна, што такую "грамаду" было цяжка ўтрымаць на плыву: скарачалася колькасць рабочых (цяпер 2,2 тысячы), вытворчыя памяшканні. Летась ён пайшоў на пенсію. Дырэктарам стаў Іван Драгун.

Сітуацыя нагадвае тую, што была 30 год таму. Я лічу, што ўсё залежыць ад першай асобы, невыпадкова старанна пералічваю ўсіх кіраўнікоў.

Час пакажа, ці здолее Іван Драгун перавесці спіраль развіцця завода на іншы якасны ўзровень.

Пра бліжэйшую будучыню гаворыць цяперашні тэхнічны дырэктар ААТ "Электрамодуль" Міхаіл Апанасевіч:

– На сваю пасаду я перайшоў тры месяцы таму. Цяжкая дасталася спадчына. Ціснe фінансавы груз: ёсць даўгі па энерганосьбітах, перад пастаўшчыкамі. Але адзначу добры кантынгент інжынерна-тэхнічных работнікаў, якія з"яўляюцца фанатамі сваёй справы: зношанасць абсталявання складае 90%. Наша галоўная задача – знізіць затраты па энерганосьбітах і матэрыялах. У планах – будаўніцтва сваёй газавай кацельні, пастараемся сканцэнтраваць вытворчасць: ёсць лішнія памяшканні, якія можна здаць у арэнду або прадаць. Летась вырашылі праблему ачышчальных збудаванняў.

Юбілей плануем адзначыць сціпла: абавязкова ўшануем ветэранаў завода, запросім кіраўнікоў–сумежнікаў. Але не будзе такога размаху, што быў калісьці.

*Запісаў Юрый КАРПІЦКІ.*



*Галоўны корпус завода «Электрамодуль».*



*Ніводная машына айчыннай вытворчасці не абыдзецца без вырабаў завода: рэгулятараў напругі і выпрамляльных блокаў.*

## БАЗАРНЫ ДЗЕНЬ

### Курсы валют НБ РБ

| | 4 мая | 11 мая |
|---|---|---|
| Долар | 485,00 руб. | 500,00 руб. |
| Марка Герм. | 222,76 руб. | 232,42 руб. |
| Літ | 121,22 руб. | 125,03 руб. |
| Рас. руб. | 17,09 руб. | 17,64 руб. |
| Злоты | 108,14 руб. | 113,22 руб. |
| ЕЎРА | 435,68 руб. | 454,58 руб. |

### «Вулічныя» курсы ў Маладзечне

| | | |
|---|---|---|
| Долар | 960 – 980 руб. | 965 – 975 руб. |

### МАЛАДЗЕЧНА. Цэны ў сераду на рынку

| ПРАДУКТЫ | | ЦАНА (руб.) 03.05 | 10.05 |
|---|---|---|---|
| Курыныя кумпячкі | 1 кг | 1050 | 1050 |
| Кілбаса с/вэндж. | 1 кг | 4060 | 4720 |
| Сасіскі | 1 кг | 1170 | 1205 |
| Селядзец салёны | 1 кг | 720 | 720 |
| Рыс | 1 кг | 360 | 350 |
| Грэчка | 1 кг | 580 | 560 |
| Цукар | 1 кг | 255 | 255 |
| Алей | 1 л | 660 | 670 |
| Яйкі курыныя | 1 дзес. | 380 | 380 |
| Маянэз | 250 г | 150 | 150 |
| Кава "Пеле" | 100 г | 900 | 900 |
| Шпроты, бляшанка | 160 г | 280 | 280 |
| Соус там. «Мінскі» | 0,5 л | 215 | 215 |
| Лімоны | 1 кг | 940 | 900 |
| Апельсіны | 1 кг | 630 | 600 |
| Цыбуля рэпчатая | 1 кг | 160 | 150 |
| Яблыкі | 1 кг | 380 | 350 |
| Морква | 1 кг | 200 | 220 |
| СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ | | | |
| Смятана | 1 л | 500 | 600 |
| Масла | 1 кг | 1200 | 1300 |
| Тварог | 1 кг | 600 | 450 |
| Малако | 1,5 л | 250 | 200 |
| Бульба | вядро | 700 | 500 |
| Яйкі курыныя | 1 дзес. | 450 | 440 |
| Капуста | 1 кг | 200 | 200 |
| Радыска | 1 пучок | 150 | 150 |
| Цыбуля зялёная | 1 пучок | 80 | 100 |
| Кроп | 1 пучок | 100 | 100 |
| Салата | 1 пучок | 150 | 150 |

## СЛУЖБА "01"

# Пажар на складзе райспажыўсаюза

*МАЛАДЗЕЧНА. 9 мая не ўсе адпачывалі. Расказвае старшы памочнік начальніка штаба пажаратушэння АВПС—14 Генадзь Навумец:*

– У той дзень нам сумаваць не прыйшлося. Паступіла шэсць выклікаў, адзін з якіх аказаўся несапраўдным. Самы цяжкі пажар адбыўся на складзе райспажыўсаюза па вуліцы Лібава–Роменскай.

Узгаранне адбылося ў тэхнічным памяшканні склада, якое знаходзілася паміж падлогай і зямлёй. Пра гэта паведаміў вартаўнік склада ў 17-49. А праз дзве хвіліны на пажар выехалі 7 аўтацыстэрнаў, аварыйна–выратавальны аўтамабіль, штаб пажаратушэння і выконваючы абавязкі начальніка АВПС–14 **Аляксандр Новік**. Працавала таксама чатыры звяны газа–дымаахоўнай службы і цыстэрна стралкова–пажарнай часці чыгункі. Плошча пажару дасягала 120 квадратных метраў, была пагроза яго двухбаковага распаўсюджвання.

Аднак праз семнаццаць хвілін пажар лакалізавалі, а ў 19-48 ліквідавалі ў заспетых памерах. З небяспечнай зоны эвакуіраваны аўтамабіль МАЗ.

Прычынай загарання сталі дзіцячыя свавольствы. Відаць, гэтае "падполле" было ў іх чымсьці накшталт гульнявога палігона. Там знаходзілася шмат гаручага матэрыялу. Дзеці паспелі ўцячы, таму аператыўная група ГРАУС, што выехала на выклік, пакуль не знайшла вінаватага.

Наогул жа, у памяшканні склада райспажыўсаюза нічога каштоўнага не было. Яно нават спісана з балансу.

*Юлія ВАНСЛАЎ.*

# Дзеянні ў выпадку ўзнікнення пажару

Вельмі часта ў экстрэмальнай сітуацыі (у тым ліку, пры пажары) чалавекам авалодвае паніка, ён не можа рэальна ацаніць становішча, справіцца са сваімі пачуццямі. Актуальнасць гэтага ўзрастае цяпер, калі ўсталявалася сухое і цёплае надвор'е. Узмацняецца пагроза лясных пажараў. Аднак павялічваецца небяспека і для жылых памяшканняў. Прапануем парады пажарных.

– Калі загарэўся бытавы электрапрыбор, уключаны ў сетку, абясточце яго, а пры неабходнасці адключыце энергазабеспячэнне ўсёй кватэры, затым пазваніце ў пажарную службу па тэлефоне 01;

– калі ачаг пажару ці загарання невялікі, паспрабуйце патушыць самастойна падручнымі сродкамі;

– калі немагчыма справіцца з агнём, пакіньце кватэру праз уваходныя дзверы, пры гэтым дзверы пакоя, дзе ўзнік пажар, і кватэры шчыльна зачыніце за сабой, таму што прыток паветра (скразняк) садзейнічае хуткаму распаўсюджванню агню;

– калі шлях да ўваходных дзвярэй адрэзаны агнём, паспрабуйце схавацца на балконе (пры гэтым не забудзьцеся зачыніць за сабой балконныя дзверы);

– калі ёсць балконны люк, перайдзіце на паверх ніжэй, калі ёсць суседні балкон – перайдзіце да суседзяў. У любым выпадку, прасіце і крычыце аб дапамозе.

Калі застаўся адзін шлях выратавання – праз акно, заштукуйце шчыліны ў стыках дзвярэй любым старым адзеннем, каб не пранікнуў дым, і падайце сігналы пажарным праз адчыненае акно. Ніколі не бойцеся: вас выратуюць.

*Андрэй РАБЕЦ, інспектар Дзяржпажнагляду Маладзечна.*

## ЗАРПЛАТА

# Бюджэтнікі зарплату за красавік пакуль не атрымалі

МАЛАДЗЕЧНА. Па–ранейшым, цяжкай сітуацыяй з выкананнем бюджэту растлумачыла невыкананне плана па выплаце заработнай платы настаўнікам загадчык фінансавага аддзела гарвыканкома **Паліна Вашкевіч**. Па стане на 10 мая запазычанасць перад школамі складала 6,4 мільёна. Калі яе ліквідуюць, цяжка сказаць, бо грошай пакуль няма.

*Аддзел інфармацыі.*

АСТРАВЕЦ. Затрымка заработнай платы да нядаўняга часу бюджэтнай сферы не тычылася: работнікам адукацыі, аховы здароўя і культуры раёна выплачваліся іх смешныя заработкі больш–менш рэгулярна яшчэ месяцы 3 таму. Аднак у апошні час сродкаў у раённым бюджэце не хапае.

Першыя не вытрымалі настаўнікі школ райцэнтра. Натуральна, страйк у прамым сэнсе гэтага слова не адбыўся, аднак размова з мясцовымі ўладамі была; сціплыя зарплаты настаўнікам пачалі выплачвацца. Па стане на 10 мая не выплачаныя зарплаты работнікам культуры і аховы здароўя.

*Галіна ФРАНЦКЕВІЧ.*

## НАВАБУДОЎЛІ

# Перасяленне з савецкіх часоў

ВАЛОЖЫН. 9 мая ў цэнтры горада адкрыўся будынак кулінарнага камбіната. Гэты даўгабуд існаваў яшчэ з савецкіх часоў. Цяпер, нарэшце, пачалося перасяленне.

На свята Перамогі адкрыўся і фірменны магазін камбіната "Глобус". Акрамя ўласных вырабаў – мясных паўфабрыкатаў, салодкіх рэчаў (тортаў, рулетаў) – будуць прадаваць хлеб, малочныя прадукты, рыбу, кілбасы, напоі.

*Наталля ШТЭЙНЕР.*

## НАЦЫЯНАЛЬНЫ ЎНІВЕРСІТЭТ

# Рада ТБМ зацвердзіла праекты канцэпцыі стварэння беларускага нацыянальнага ўніверсітэта і яго статута

МІНСК. Кіраўніцтва ТБМ прапанавала ўсім сваім структурам актыўна ўключыцца ў збор подпісаў грамадзян Беларусі за адкрыццё БНУ. Паводле слоў старшыні ТБМ **Алега Трусава**, сабрана каля 22 тысяч подпісаў у падтрымку ініцыятывы нацыянальнай інтэлігенцыі. Прычым, як заўважыў старшыня ТБМ, «ужо сёння ёсць магчымасць надрукаваць 20 падручнікаў для студэнтаў будучага універсітэта».

Рада ТБМ даручыла кіраўніцтву грамадскага аб'яднання да 1 чэрвеня 2000 года перадаць у адміністрацыю прэзідэнта і Міністэрства адукацыі праекты статута і канцэпцыі БНУ, а таксама подпісы грамадзян Беларусі і іншых краін з прапановай 1 верасня 2001 года адкрыць у Мінску БНУ, у якім усе прадметы будуць выкладацца на беларускай мове. Мяркуецца, што ў перспектыве з'явяцца філіялы Беларускага нацыянальнага універсітэта ў Лідзе, Пінску і Оршы – буйных гарадах краіны, дзе пакуль няма ніводнага ВНУ.

Рада ТБМ пастанавіла рэкамендаваць усім сваім зарэгістраваным арганізацыям падаць заяўкі на правядзенне 13 або 14 траўня пікетаў з патрабаваннем адкрыцця ў Мінску БНУ і надання беларускай мове статусу дзяржаўнай. Акрамя таго, вырашана правесці ў Мінску 14 траўня мітынг пратэсту супраць «лінгвацыду» беларускай мовы.

*Марат ГАРАВЫ, БелаПАН.*

